41 46 1881

05
701

Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. Цана асоб…




Адрэс Рэдакцыі і адміністрацыі:
Вільня, Каралеўская вул. 3 — 8.

Рэдакцыя адчынена ў аўторкі і пятніцы
ад 10 да 14 гадз.

Падпісная плата: на год 4 зл., на паўгоду — 2 зл. — гр., на 3 мес. — 1 зл. — гр.

Заграніцу — удвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

1936 N 4-5

## ЗЬМЕСТ:

## УСІХ! УСІХ!

...га існаваньне „Беларускай Борці“, просім скла-
...а Прэсавы Фонд!
...ьшая ахвяра будзе ўжо падмогай!
...х капель — складаецца вялікае мора.

РЭДАКЦЫЯ І АДМІНІСТРАЦЫЯ.

...маюцца складкі на 1936 год

...ЯЧНІК ПЧАЛЯРСТВА, МЯДОВА-ЛЕКАРСКІХ ЗЁЛАК, САДОЎ-
...ВА, АГАРОДНІЦТВА і іншых галін земляробскае гаспадарства

# „Беларуская Борць“

СКЛАДКІ:

на год. . 4 зл. — на паўгода 2 зл. — на 3 месяцы 1 зл.

Камплет у 5 екзэмпляраў — на год 3.— зл.
„ „ 10 „ „ „ 2.50 зл.

Заграніцу — удвая даражэй.

Чытачы, якія ўнясуць да 1 ліпня 1936 г. складку за год атрымаюць прэмію — камплет „Беларускай Борці“ за 1935 год.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі — ВІЛЬНЯ, КАРАЛЕЎСКАЯ ВУЛ. 3-8.

ВЫЙШЛА З ДРУКУ і ПРАДАЕЦЦА НОВАЯ БЕЛАРУСКАЯ КНІЖКА — БУКВАР С. ПАЎЛОВІЧА ПАД НАЗОВАМ

## ПЕРШЫЯ ЗЕРНЯТКІ —

беларуская граматка для хатняга навучаньня. Надрукавана гражданкаю. З 137 малюнкамі. Выданьне Я. Малецкага. 96 старонак. Можна выпісваць праз усе беларускія культурна-асьветныя арганізацыі і Школьны Сэкратарыят ТБШ і БІГіК (Каралеўская вул. 3-8). Галоўны склад — беларуская кнігарня „Пагоня“ — Завальная вул. 1. :—: Цана: да 10 экз. па 50 гр., ад 10 да 20 — па 45 гр., ад 20 да 50 — па 40 гр., вышэй 50 па 30 гр. за адзін экз. :—: Патрэба такой кніжкі адчуваецца ў нас даўно. Ня маючы роднае школы, беларусы — каб выбіцца на шлях асьветы — павінны зараз усю ўвагу сваю зьвярнуць на хатняе навучаньне. У „Першых Зернятках“ даецца лёгкі і хуткі спосаб навучыцца чытаць і пісаць. Апрача ўласна букварнага матар'ялу (1—44 стар.), у кніжцы ёсьць і багатая чытанка (45—96 стар.), насычаная глыбокім беларускім зьместам. Чытанка складаецца з аддзелаў: Чытанка для дзяцей, Беларусь і беларусы, Прырода і праца на Беларусі, Культура і поступ, Вучэньне-сьвет, нявучэньне-цьма. :—: Новы буквар павінен быць у кожнай беларускай сям'і. Усе дзеці, уся моладзь няпісьменная адгэтуль хай не расстаецца з букварам, пакуль не вывучыцца граматы. :—: Выгляд буквару дадатні.

# Беларуская Борць

**Месячнік пчалярства і мядова-лекарскіх зёлак**

№ 4-5 КРАСАВІК—ТРАВЕНЬ 1936 г. ГОД III.


## Аб арганізацыі земляробства.

Цяжкае палажэньне земляробства так відавочна, што даводзіць гэтага ня прыходзіцца. Знаны таксама і той факт, што сучасны крызыс найбольш балюча адбіўся імена на зямляробстве.

Гэта найляпей відаць з цыфраў.

Калі прыняць для прыкладу цэны, якія плаціліся за прадукты земляробства ў 1929 годзе за 100, дык у 1933 годзе за гэтыя прадукты плацілі: за пшаніцу 36, за масла — 38, за бараніну — 43 і г. д. А ў гэты самы час цэны на прадукты прамысловасьці, якія земляроб патрабуе, як для асабістага спажыцьця, так і ў сваей гаспадарцы, абнізіліся зусім нязначна, а цэны прадуктаў скартэлізаванай прамысловасьці выказалі пры гэтым значную адпорнасьць проціў абніжэньня. Не абнізіліся таксама і такія цяжары зэмляробства, як падаткі і даўгі. У часы памыснай каньюнктуры земляробства шырака карысталася з крэдытаў у розных банках. Праўда пазычаныя сумы звычайна йшлі на разбудову варштатаў працы, але зараз пры катастрафальнай зніжцы цэн прадуктаў вытвараных у гэтых варштатах, даўгі гэтыя зьяўляюцца адным з найгалоўнейшых цяжараў, якія ляжаць на земляробстве і могуць давясьці яго да руіны.

Ня выказываюць тэндэнцыяў да адпаведнае зьніжкі і цяжары падаткавыя.

Крытычнае палажэньне земляробства добра разумеюць усе, як урадавыя і грамадзкія дзейнікі, так і самыя земляробы. Шуканьне выхаду, ратаваньне земляробства гэта адна з галаўнейшых задачаў сучаснае гаспадарчае палітыкі ўраду. Зусім зразумелай і сваячаснай зьяўляецца і акцыя пашырэньня сярод дробных земляробаў думкі аб патрэбе уласнае арганізацыі.

Перад земляробам, асабліва дробным, стаяць вялікія заданьні.Ападаньне цэнаў на прадукты земляробства зьявілася пагрозаю ня толькі земляробству, але і быту самых земляробаў. Крызыс у прамысловасьці не абяцае земляробу, які ня можа зарабіць сабе кавалка хлеба, ніякае працы і ў горадзе. Трэба дзеля гэтага рабіць усе высілкі, каб падняць даходнасьць земляробства, каб зрабіць яго аплатным. Калі цэны прадуктаў абнізіліся, дык трэба імкнуцца і да абніжэньня коштаў вытварэньня гэтых прадуктаў. Гэта адно з аснаўных заданьняў сучаснае грамадзкае аграноміі, якога ня здолее выканаць паасобны земляроб, але якое зусім магчыма да выкананьня праз адпа-

ведныя арганізацыі. Данія, дала ў гэтым найлепшы прыклад. Дзякуючы рацыяналізацыі прадукцыі ў паасобных галінах земляробства, удалося асягнуць там значнае зьніжкі коштаў прадукцыі, што дало вялікія карысьці.

Далей можна і трэба падняць ураджайнасьць. Гэта магчыма асягнуць праз застасаваньне усіх навуковых вынахадаў і ўдасканаленьняў ў галіне земляробства, праз карыстаньне з парадаў вучоных аграномаў. І ў гэтым напрамку, тое, што немагчыма для адзінак, лёгка даступна пры адпаведнай арганізованасьці. Доказам можа служыць украінская арганізацыя „Сільскі Господар“, якая утрымлівае цэлыя кадры вучоных аграномаў, якія прыносяць свайму народу вялікія карысьці.

Арганізацыя збыту прадуктаў таксама можа значна прычыніцца да палепшаньня быту земляробства. Паміж прадуцэнтам-земляробам і спажыўцом, пры сучасным грамадзкім ладзе, вытварылася цэлая армія розных пасярэднікаў, якія, ня прычыняюцца да вытварэньня прадуктаў і да іх палепшаньня, а наадварот, праз нясуменнае адношаньне і фальшаваньне, часта толькі зьніжаюць іх спажыўчыя вартасьці і цану. Гэтыя пасярэднікі пабіраюць за свае ўслугі вялізарныя сумы, як ад земляробаў-прадуцэнтаў, так і ад спажыўцоў. Сколькі каштуе ўтрыманьне гэтых пасярэднікаў найляпей гаворяць цыфры. На адбытай нядаўна ў Варшаве гаспадарчай нарадзе адзін з прамоўцаў п. А. Івашкевіч падлічыў, што за галоўныя прадукты земляробства,ператвораныя ў прадукты спажыцьця гарадзкі спажывец плоціць у год: за жыта - 326,5 мільёнаў злотых, за пшаніцу — 234,6 мільёнаў зл., за скаціну — 290,8 мільёнаў зл., за сьвіней — 568,2 мільўнаў зл., а за ўсё разам—1 мільярд 420,1 мільёнаў злотых, а прадуцэнты і гадоўцы з гэтае сумы атрымалі меньш паловы, бо толькі 707,9 мільёнаў зл. Рэшта, пасьля адлічэньня не вялікае сумы на кошты пераробкі, пайшла ў кішэнь пасярэднікаў. Патрэбу ўсунуць гэтакае ненармальнае зьявішча даўно зразумелі спажыўцы, арганізуючыся дзеля гэтага ў спажывецкія кааператывы. Разумеюць гэтую патрэбу і прадуцэнты-земляробы.

Ў органе гаспадарчае камісіі саюзу „млодзежы вейскай“ — „Віці Господарчэ“ гр. Мілковскі піша:

„селянін, які імкнецца ўнезалежніцца гаспадарча, павінен стварыць такі стан рэчаў, каб

а) прадаваць свае прадукты за пасярэдніцтвам уласных коопэратыўных пляцовак,

б) стварыць свае коопэратыўныя пляцоўкі дзеля пераробкі і прадажы прадуктаў ужо гатовых да спажыцьця,

в) купляць прадукты праз уласныя коопэратывы закупу.

Тут ідзе ўжо не аб тое, каб здабыць пару крамак „ад жыдоў“, як гэта кажуць заалягічныя нацыяналісты і нашыя дамарошчаныя фашысты, якія зводзяць коопэратыўную праграму да звычайнага антысемітызму. Тут, як слушна піша „Работнік“, ідзе аб тое, каб „наа-

гул адсунуць сучасную форму гандлю і знайсьці больш бязпасярэдні кантакт (сутычнасць) прадуцэнта-земляроба з гарадзкім спажыўцом“.

Тут, як відаць, падымаецца ўжо пытаньне аб перабудове гандлёвага апарату сучаснага капіталістычнага ладу.

Усе пералічаныя напрамкі барацьбы з крызысам у земляробстве вымагаюць арганізаванасьці. На гэтым сходзяцца ўсе, незалежна ад палітычных і грамадзкіх поглядаў і пераконаньняў.

Аднак прыходзіцца прызнаць, што ня ўсе рэцэпты, якія з розных бакоў даюцца нашаму селянству могуць быць карыснымі. Звычайна ўсе гэтакія парады і пачынаньні выходзяць звонку, ад людзей чужых для нашага селяніна, ня вызываюць да сябе даверра і ня могуць дзеля гэтага выклікаць яго самадзейнасьці. Бяз гэтае-ж самадзейнасьці арганізацыя траціць усякае значэньне. Арганізацыя земляробства толькі тады будзе карыснай і дасьць дадатнія вынікі, калі патрэба яе будзе адчута самымі земляробамі і будзе зьяўляцца вынікам жаданьня паправіць свой быт.

Ня можа, дзеля гэтага быць карысным для справы кіраваньне земляробскімі арганізацыямі элемэнтамі чужымі, а часта нават варожымі да беларускага селяніна. Гэтае зьявішча нажаль прыходзіцца спатыкаць вельмі часта ў існуючых на нашых землях розных земляробскіх і коопэратыўных арганізацыях. Улады цэнтральных саюзных арганізацыяў імкнуцца паставіць на чале ня толькі ў арганізацыях другой і трэцьцяй ступені (павятовых і ваяводзкіх), але нават і ў мяйсцовых людзей чужых, прысланых, або мяйсцовых асаднікаў ці элемэнт шляхоцкі, да якіх беларускі селянін ня мае даверра. Як ілюстрацыю таго, як адносіцца беларускае селянства да арганізацый, апанаваных праз элемэнты не сялянскія прывяду наступны факт. Калі аднаго селяніна спыталіся чаму ён ня хоча ісьці ў коопэратыў дык у адказ пачулася: „бо там шмат капялюшоў“.

Адказ досыць характэрны і над гэтым варта задумацца.

М. Манцевіч.


**Беларускае Каапэрат. Т-ва „ПЧАЛА“**

паведамляе

што прыймае заказы на ВУЗУ па цане 5 зл. 90 гр. за кіляграм, бяз перасылкі. Толькі за гатоўку.

Адрэс: Wilno, ul. Królewska 3-8. „Białoruskie Kooper. T-wo „Pczała“.



# Пчалярства



## Вульлей старога Мацея.

Як толькі прыйдзе вясна у вёску
зялёным шумам пачне шумець,
і загарыцца гарачым воскам
у лазе надрэчнай ціха брэдзь.—

Тады з лучыны, з гарбатай печы,
памалу злазіць стары Мацей,
рызман накінуўшы на плечы,
йдзе даглядаць стаяк - вульлей.

З лятва, памалу, выймае сторшку,
падчысьціць трохі дзе - недзе.
Крануцца пчолкіісьці па дошках,
па шэрым хропе і барадзе.

Стары сьмяецца, аджыў, гавора:
„Ну што-ж заседзіліся вы?“...

Рукой памалу госьцяў кволых
з сівой зьбірае галавы.

„А ўжо за полем — кажа пчолкам—
запахла мёдам у лазе“...
Гавора аб сваім пасёлку
і аб сваей старой бядзе:

што ўсю вясну жыве бяз хлеба
сям'я і сам стары Мацей;
Німа за што купіць і дрэва:
рамовы пчолкам даць вульлей...

„Ды і зіма была ліхая“...
Адпаду, бачыш, жмені дзьве...
Ну дзе ты лезеш?... Эх, дурная!
у вочы, ў нос, па барадзе ...

А пчолы з залацістым звонам
іскуюць, сыпяцца з вульля
і сьмехам збуджаным зялёным
сьмяецца поля,
лес,
зямля.

Вільня, Красавік 1936 г.

*МАКСІМ ТАНК.*

---

# Які вульлей найлепшы?

На гэтую тэму пісалася ўжо ня мала ўва ўсіх пчалярскіх часопісах, пішацца і цяпер і горача дыскутуецца. Кожны бортнік стараецца паказаць, што яго досьлед над тыпамі розных вульлёў ёсьць лепшы, што ў ягоным пчальніку — вульлі найлепшыя. Дыскусія часта пераходзіць у злосную крытыку, калі адных сыстэмаў баронячы другія ненавідзіцца. Пачаткуючаму бортніку, каторы-б прачытаў, дапусьцім першы лепшы нумар польскага пчалярскага месячніка, цёпла зробіцца, калі ён убачыць там вострую палеміку на тэму, каторы вульлей найлепшы. Адзін хваліць, пад неба славіць вульлей О. Чынкі як апошняе слова пчалярскай навукі, другі кажа, што гэта аўстрыяцкая жаў-

нерская будка, галубятнік etc. Адзін тавора што вульлей О. Чынкі даў 90 кгр. мёду, другі што чалавечая імагінацыя можа ўявіць сабе і 150! Адзін хваліць „Варшаўскія" дзеля таго што гэта польскія, дык найлепшыя! Другі „кушкі", „паморскія", „Вэбэра і так у кружок. Здаралася такжа цынічная крытыка сыстэму Дадана Блятта. Нейкі беластоцкі пчаляр у 1932 годзе пісаў, што Дадан Блятт добры, але на сабачыя буды, або гусіныя гнёзды. І гэта добрая карысьць для сяляніна. Аднак, здаецца, што дагэтуль ніхто аб'ектыўна ня падыходзіў да справы выбару вульля сярод польскіх бортнікаў і ня выказаў, якія прыметы павінен мець добры вульлей ня гледзячы на тое, ці гэта будзе называцца Чынкі, ці Бжускі Вэбэра ці інакш. Справа вульля мае вялікае значэньне, як гэта паказала наша пчалярская практыка і, можна сказаць, 50% даходу залежыць ад добрай сыстэмы вульля.

Дзеля таго трэ' разгледзіць гэтую, так важную справу, тым больш для нас беларусаў, дзе спатыкаем перадусім старыя тыпы вульлёў як калоды. Левіцкага і інш. і дзе пераход ад старых да новых рацыянальных вульлёў ёсьць неабходны, каб падняць даход нашага беднага сяляніна і пчаляра.

Перадусім трэ' падчыркнуць, што ў пчальніку павінны быць усе вульлі аднае сыстэмы і так дакладна зробленыя, каб часткі аднаго вульля падыходзілі да другога. Гэта вельмі выгадна ў гаспадарцы і ўва ўсіх маніпуляцыях пчаляра. І калі ў пчальніку ёсьць розныя сыстэмы вульлёў трэ' прыняць адзін стандартны, а ўсе іншыя пакасаваць, перасаджваючы пчолы ў стандартны, хіба бортнік будзе праводзіць навуковыя досьледы. Пераходзячы да ацэнкі добрага вульля мы павінны памятаць, што вульлей перадусім зьяўляецца памешканьнем пчолаў і складам для мёду, і дзеля таго ён павінен споўніць сваё назначэньне. Па другое, пчаляру прыходзіцца праводзіць розныя работы ў вульлі. Бязумоўна ён павінен быць выгадны для гэтай мэты. І дзеля таго ад вульля вымагаецца наступнае:

1) Вульлей павінен быць па меры магчымасьці просты па будоўлі і лёгкі на вагу. Чынка тут зьяўляецца за цяжкі. Грам. Блонскі бароніць гэты дэфэкт вульля Чынкі тым, што цяжар вульля забяспечвае ад пакражы, але забываецца, што рацыянальная пчалярская гаспадарка павінна прадбачыць магчымасьць качавога спосабу гаспадараваньня, калі бортнік хоча мець добры даход з пчальніка.

2) Для нармальнага разьвіцьця пчалінай сямьі вульлей павінен быць даволі абшырны. Аб'ём гнязда, ня лічыўшы магазыну, павінен быць каля 60,000 см$^3$.

Калі будзе вульлей за малы, матцы ня хопіць месца на чэрвеньне ў гнязьдзе і яна пройдзе ў магазын, як гэта мы штогод бачым у сваім пчальніку ў вульлі Роота № 14. Малы вульлей зьяўляецца прычынай раеньня пчолаў, каторых ніяк ня можна адучыць у цесным памешканьні ад раёў. З гэтай-жа прычыны, пчолы мала даюць мёду, бо яны ў часе галоўнага збору будуць рыхтавацца толькі да ройкі, ня думаючы аб запасах на зіму. Тут пацьвярджаецца думка О. Чынкі, польскага пчаляра аб цеснаце старой сыстемы вульлёў.

3) У добрым вульлі гняздо павінна быць так зроблена, каб можна было яго павялічваць і зьмяншаць. Гэта неабходна дзеля таго, каб можна было свабодна ў адпаведнай пары рэгуляваць аб'ём гнязда адносна да сілы пня, інакш слабая сям'я ў абшырным гнязьдзе ня зможа абагрэць чарвы.

4) Вульлей павінен быць задавальняюча цёплы. Ён павінен бараніць пчолы ад сьпекі, сьцюжы і сырасьці. У вульлях тонкасьценных зімою быстра настываюць сьцены

а гэта прычыняецца да сырасьці і розных хвароб, як гэта я ўжо пісаў у „Беларускай Борці" № 1—2. Уцяпляць тонкасьценныя вульлі можна іншымі спосабамі, як нпр. матамі.

5) Вульлей павінен быць выгадны для розных работаў, каб можна было разабраць гняздо ня непакоячы лішня пчолаў, не марнуючы не адной чаркі, не праліваючы ні адной каплі мёду і не дражнячы пчолаў. А гэта толькі магчыма пры наступных варунках:

а) калі вульлей адчыняецца з верху і рамкі вымаюцца ў гару;
b) калі рамкі ня датыкаюцца да сьценак вульля,
с) калі рамкі ня лучацца бакамі адна з другой.

Дрэнны той вульлей, у каторым прыходзіцца з мукай вымаць рамкі з вульля і назад устаўляць. А гэта здараецца ў тых вульлях, у каторых рамкі стыкаюцца з сьценкамі, або адна з аднэй ня толькі з верху, але і з бакоў. У першым выпадку пчолы прыклеяць рамкі да сьценак вульля, у другім злучаць воскам адну з другой. Вымаючы і ўстаўляючы рамкі, бортніку прыходзіцца ламаць склейку паміж рамкамі і адрываць рамкі ад сьценак вульля. Бяз душэньня пчолаў, бяз разліцьця мёду тут ня абойдзецца. Пчолы быстра і ярка сякуць тады пчаляра і ўсіх, хто толькі каля яго або ў пчальніку знойдзецца. Далей ведаем, што пчолы па ўжыгаленьні гінуць і гэтым аслабляецца сіла пня, а з гэтага ідзе меньшы збор мёду. Апіраючыся на такіх крытэр'ях прыдзецца неміласерна скрытыкаваць вульлей сыстэмы О. Чынкі, дзе сапраўды ўся кая работа з боку пчаляра, можна, сказаць, ледзь даступная. Гэта магу сказаць з сваей практыкі. Найгорш справа прадстаўляецца са снозамі. Пчолы зьліваюць снозу з рамкамі і трэ' пры агледзінах, скажам канешных, як веснавая рэвізыя, рэзаць плястры і кручком выцягваць рамкі з боку пры тым ня можна ня душыць пчолаў, тым больш пры вялікай сіле пня. Гэта сама ёсьць пры старых сыстэмах напр. Левіцкага, дзе рамкі стыкаюцца верхнімі бэлячкамі.

6) Вульлей павінен быць так збудаваны, каб пчолы бяз труднасьці маглі вынасіць рознае сьмяцьцё з свайго памешканьня і можна было ўдзержаць вульлей у чыстаце. Па другое, каб пчолы маглі, не марнуючы шмат часу, класьці нектар, сабраны на кветках, а кладуць яны ў пустую вашчыну недалока лёткі. Час галоўнага збору вельмі кароткі і дзеля таго бортнік павінен усімі сіламі аблягчыць працу пчолаў, а гэтым самым павялічыць свой даход з пчальніка.

З гэтага пункту гледжаньня дрэнны той будзе вульлей, у каторым вылят знаходзіцца ня пры дне але вышэй. Пчолы тады прымушаны будуць падымаць рознае сьмяцьцё, каб выкінуць з вульля. Таксама трэ' каб вылят быў канешна на кант рамак інакш пчолы марнуюць час на пераход у патрэбнае месца і пры такім вылёце лепшая вэнтыляцыя. Тып Левіцкага і іншыя старыя маюць гэткія лёткі. Па другое вылятаў павінна быць ня больш як адзін а то дзеля лепшай абароны пчолаў ад магчымага і даволі частага нападу і грабежа чужымі пчоламі.

7) Вульлей павінен быць танны. Таннасьць вульля асягваецца — простаю будоўляю бяз усякіх выдумкаў непатрэбных. Абаронцы О. Чынкі тлумачацца, што вульлей сам сябе аплаціць, што ня трэ' шкадаваць грошай на яго саліднае выкананьне. Гэта часткова праўда. Ня трэ' аднак забываць, што агульны кошт вульлёў пры закладаньні пчальніку вялікі. Па другое ні кожны можа патрапіць сам збудаваць вульлей скамплікаваны, а ідэалам пчаляра ёсьць, каб сам мог рабіць добрыя вульлі. Ня трэ' шкадаваць

грошаў на дакладнае выкананьне вульля і яго кансэрвацыю з гэтым згаджаюся.

8) Вульлей павінен быць даступны да ачысткі. У вульлях з адыманым дном работа ідзе шпарка і лёгка і можна заўсёды ўдзержаць чыстату ў вульлі, а калі трэба нат' можна вымыць дно. Да гэтага трэ' далажыць, каб такое дно было на шрубох, каторымі можна было-б прымацаваць дно да вульля ў часе перавозкі, ці на выпадак качавой гаспадаркі.

9) Пчолам і вясной і зімой патрэбна сьвежае, чыстае паветра. Дзеля таго павінна быць у вульлі добрая вэнтыляцыя з тым, каб ня было скразьняка. Тут О. Чынка ў парадку. Гэта пытаньне развязаў вельмі добра.

10) Вульлей павінен быць добры для разплоду пчолаў. Вузкія і нізкія рамкі спыняюць дзейнасьць маткі ў часе сільнага чарвеньня. Матка чэрыць заўсёды радыяльна, пачынаючы ад цэнтру рамкі. Дзеля таго гняздавая рамка павінна быць меньш больш квадратная. У вузкіх ці ў нізкіх рамках матка ўсьцяж натыкаецца на іх сьценкі і часова перарывае кладку яечак. Каб знайсьці пустыя чашкі яна павінна пераходзіць з плястра на плястар і бяз патрэбы марнаваць час.

(Працяг будзе).

М. ЯКІМЕЦ.

## Хваробы і ворагі пчолаў.

(працяг).

### Акарапіс, або хвароба з вострава **Wight** (acariosis).

На гэтую хваробу зьвярнулі вучоныя сваю ўвагу толькі ў 1904 годзе ў часе страшной эпідэміі на востраве Wight, дзе зьнішчыла яна амаль ўсе пчальнікі. Аднак-жа 15 гадоў прычына яе была ня знаная. І толькі ў 1920 годзе Гэрвэй выкрывае, што прычынаю гэнай хваробы зьяўляецца малюсенькі клешч, якого Рэньні назваў Tarsonemus Wodi. Фон Гірст назваў гэтага кляшча Acarapis Woodi. Назоў апошві прыняўся і ўжываецца на ўсім сьвеце.

Acarapis — гэта малюсенькі клешч (самец 85—110" даўжыві, самка 105—181"); належыць ён да сямьі павукоў і стаіць вельмі блізка з кляшчом, выклікаючым каросту ў людзей і жывёлы. Усё сваё жыцьцё праводзіць гэты клешч у ворганах дыханьня пчалы, якія складаюцца з цененькіх трубачак называных тхаўкамі, якія разшыраюцца ў большыя паветраныя ямы, называныя паветранымі мяшкамі.

Заражэньне адбываецца так: самка Acarapis дастаецца з хворай пчалы на здаровую (можа гэта стацца толькі пры датыканьні аднэй пчалы другою) залазіць у яе першую пару тхавак і там складае яйкі, з якіх выходзяць маладыя паразіты, якія затыкаюць сьвятло тхавак, дзякуючы чаму пчала траціць здольнась лётаньня і душыцца ад недахопу паветра. Заражэньню падлягаюць толькі пчолы маладыя, маючыя да 5 дзён.

Сьцверджана, што заразу з вульля ў вульлей могуць перанясьці толькі пчолы. Нават чарва ўзятая з хворага вульля заразіць ня можа.

Пераважна хвароба „акарапіс" мае прабег павольны, аднак-жа здараюцца гады, калі яна мае прабег эпідэмічны і нішчыць ў данай ваколіцы амаль ўсе пчальнікі, што здарылася на востраве Wight ў 1904 годзе. І таму сьцверджаную ака-

рапіс трэба адразу лячыць. Лячэньне яе выконваецца пры помачы лякарства, якім ня можна лячыць іншых хваробаў дарослых пчолаў. Хворыя на акарапіс пчолы тхаўкі маюць цёмна жоўты колер, у здаровай пчалы — белы. Пэўнае распазнаньне гэтай хваробы можна зрабіць толькі пад мікраскопам і таму, калі маем нават падазрэньне акарапіс, трэба злавіць некалькі дзесяткаў маладых пчолаў, забіць іх этарам, або параю бэнзыны і паслаць, дзе робяць досьледы над хваробамі пчолаў. Куды пасылаць і як пасылаць, я падаў у папярэднім нумары „Б. Б.“ апісваючы нозэму.

У 1926 годзе Frow падаў лякарства, якое паводле яго радыкальна лечыць акарапіс. Лякарства гэта складаецца з 2-х частак бэнзіны, 2 частак нітрабэнзолю і 1 часткі сафролавага алейку. Пры лячэньні бярэм 2 цантымэтры гэтага лякарства і мочым ім кусочак кардону і кладзём яго на дно вульля ў працягу 8 — 10 дзён. Лячыць гэткім спосабам можна ў кожную пару году, аднак-жа найлепш у восені, калі пчолы сабраліся ўжо ў клубок. Вясною лячэньне Frow радзіць паўтарыць, але бярэм цяпер толькі 0,6 цантымэтра што другі дзень.

Лечаць яшчэ мэтыль — саліцылям, які стаўляецца ў бутэльцы з шырокім рыльцам на ўсю зіму ў вульлей.

Трэба толькі пільнаваць і як толькі гэты раствор выпаруе падліваць больш. Іншай мэтады лячэньня ўжывае Моргарталер. Бярэ ён устужкі, выразаныя з кардону і мачае іх ў рашчыне салетры патасовай, распушчанай ў 1/2 літра вады. Салетры бярэ ён 150 грамаў. Пасьля кардон сушыць. Высушыўшы мочыць яго ў рашчыне серкі, распушчанай ў 2-х частках сярчку вугля. Цяпер ізноў сушыць, а высушаны кладзе ў курадымку і з добра распаленай пушчае 2—3 порцыі дыму праз вочка аба з верху вульля. Лячэньне гэткае паўтараецца ў працягу вясны і лета 12—15 разоў.

Яшчэ з шмат якімі хваробамі пчолаў можна спаткацца ў пчалярскіх часопісах, але я аб іх дзеля нязнаных спосабаў змаганьня з імі і лячэньня не ўспамінаю. Хаця вельмі мне хочацца падзяліцца з чытачамі на старонках „Б. Б“. з поглядамі на гэтыя хваробы сучасных вучоных і пчаляроў. Але гэта зраблю пазьней, калі пазволіць на гэта рэдактар „Б. Б.“

*Садзі мёдадайны жываплот — будзеш есьці мёд.*

Л. ВОЙЦІКАВА

# Мёдадайныя расьліны.

У номары 4—5 „Беларускай Борці“, з 1935 годзе быў закончаны кароткі перагляд самых важных для нас медадайных дрэваў і кустоў.

Цяпер прыступім да перагляду розных дзікіх зёлак, пустазельля, расьлін кармовых, агародніх, і г. д. якія, красуючы адны пасьля другіх, даюць пчолам пажытак падчас цэлага сэзону.

Каб добра арьентавацца, калі пчолы могуць мець пажытак і адпаведна да гэтага кіраваць сваімі пчоламі, пчаляр м у с і ц ь ведаць, калі і як доўга цьвяце кожная медадайная расьліна.

Ня кожны, асабліва з пчаляроўсялян, мае час і магчымасьць прыглядацца і сьлядзіць з чаго пчолы карыстаюць, з чаго зьбіраюць мёд і пяргу, дзеля гэтага будзем да-

ваць кароткі перагляд расьлін медадайных ў парадку іх красаваньня. Пчалярам астанецца толькі сьцьвярдзіць ці данная расьліна вывыступае у іх ваколіцы ў большай колькасьці і запісаць сабе час яе красаваньня. У будучыні кожны пчаляр ужо загадзя будзе ведаць калі, якога пажытку мае спадзявацца.

Запісываць найлепш паводле пэўнага парадку ў асобным сшытку.

Ніжэй падаем ўзор.*)

| | нэктар | пярш | Сакавік 5.10 15.20.25.30 | Красавік 5.10.15.20.25 30 | Травень 5.10.15.20.25.30 | Чэрвень 5 10 15.20.25.30 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Ляшчына | | п | X | X X X | | |
| Воўчаялыка | н. | п. | | X X X | | |
| Пралеска | н | П. | | X X X | | |
| Падбел | Н | П. | | X X X X X X | | |
| Вербалоз | Н. | П. | | X X X X | | |

**Падбел** (Tussilago farfara).

Мае корань даўгі, глыбака ў зямлю запушчаны з якога зараз пасьля таго, як сьнег сыйдзе, выходзіць бела-кашлатае сьцябло з жоўтай зложанай кветкай на вярху. Лісьцё паказываецца пасьля красаваньня. Расьце на сонечных мяйсцох на вільготным грунце. Пчолы бяруць з яго нэктар і пяргу. Лісьцё мае застасаваньне ў мэдыцыне, нават вялікае, але плаціцца танна.

**Пралеска** (Hepatica Ariloba).

Усім добра знаёмая веснавая кветка. Расьце масамі ў лясах і зарасьлях. Цьвяце, як толькі сьнег сыйдзе. Дае крыху нэктару і шмат пяргі.

Лісьцё ужываецца ў малой колькасьці ў мэдыцыне.

**Канапелька** (Anemone nemorosa).

З грубога, як густае пяро корня, адзін на трое разьдзеляны пярысты лісток і доўгае сьцябло з адной кветкай, якая мае 6—9 пялёсткаў белых часта падысподам чырванаватых. Расьце ўсюды ў лясах і зарасьлях. Цьвяце ад красавіка да траўня. Дае мала нэктару і шмат пяргі.

**Латацень** (Лопух) Caltha palustris.

Мае сьцябло ня высокае але грубое і сакавітае, зусім гладкое і блíскучае. Лісьцё серпавата - круглае гэтак сама блíскучае. Кветкі залаціста - жоўтыя 5-ці пялёстныя. Цьвяце ў траўні. Расьце на мокрых балотах. Дае крыху нэктару і шмат пяргі.

**Малачай** (Taraxacum officinale).

Лісьцё падоўжнае, зубкаванае, сабранае пры зямлі разэткай. Зпаміж лісьця выходзіць руркаватае, пустое у сярэдзіне, сьцябло закончанае жоўтай поўнай кветкай. Цьвяце ад красавіка да верасьня. Расьце на межах, балотах і г. д.

---

*) Узор ўзяты з украінскай кніжкі „Мэдадайні расьлін“ інж. М. Бароўскага.

паміж травой. Малачай гэта адзін з найлепшых мёдадаяў, дае шмат нэктару і шмат высокай вартасьці пяргі. Дзе яго няма варта падсяваць у траву, бо апрача мёдадайнасьці ён мае вартасьць кармовую. Малачай мае шмат вітамінаў і вельмі карысны на корм для сьвіней, качак, гусак і кролікаў. Ува Францыі гадуюць малачай зумысна і ўжываюць маладых спэцыяльна „выбеляных“ лісткоў на салату. Пчаляры радзяць сокам малачаю націраць рукі як укусіць пчала, ад гэтага, падобна сьціхае боль і адыходзіць пухліна.

Корань малачаю выкапаны перад красаваньнем або ў восені ўжываецца ў мэдыцыні.

**Шанта** — белая крапіва. (Lamium album).

Лісьцё мае такой формы як крапіва, толькі цьмянае і ня пякучае. Кветкі губаватыя, вялікія белыя ў кутох лісьця. Расьце пад платамі, хатамі і наагул на неўжытках. Цьвяце ад траўня да жніўня. Скошаная ў восені цьвяце ізноў. — Дае шмат добрага нэктару і крыху пяргі. Кветкі маюць застасаваньне ў мэдыцыне.

(Далей будзе).

## Як пашыраць гняздо.

Прычакаўшы цяпла і сякога-такога пажытку матка пачынае чэрыць больш і больш. Пчол прыбывае і робіцца ім цесна. Нераз пчаляр заглянуўшы раніцай у вулей бачыць, што пчолы сядзяць на застаўной дошцы а таксама каля выляту. Вось тады прыходзіцца пашыраць гняздо.

Трэба помніць, каб гэта рабіць абдумана і не пашыраць зарана, бо не ў пару павялічанае гняздо будзе халоднае і ня толькі ня прыспешыць разьвіцьця пчалінай сям'і, але наадварот прыпыніць яго.

Адразу шмат рамак ставіць нельга, толькі адну або найбольш дзьве.

Ставіцца рамку зберагу зараз

## „Спажыўныя і лекарскія вартасьці мёду“.

(*Рэфэрат прачытаны 3-III-1935 г. на вечары прапаганды мёду*).

(Працяг).

Мёд — ежа вельмі добрая да перахоўкі, таму што бывае заўсёды сьвежы і ніколі ня псуецца: не чарствее, як хлеб; ня кісьне, як малако, ня жуецца, як мяса, ня гніе, як садовіна і ніколі ня мае дрэннага паху. Нямаючы труднасьці ў перахоўцы, мы павінны больш яго спажываць ад усіх іншых страваў і сладзіць ім усе напіткі, пакінуўшы фабрычны цукар, які шкодзіць нашаму арганізму, а парадусім арганізму хвораму на т. зв. цукровую хваробу; хэмічны склад цукру паводле праф. Фролава наступны:

Вады 0,05%.

Цукру бурачнага 99,7%.

Мінэральных і нястраўных частак 0,25%. Ані сьледу фэрмэнтаў, вітамінаў, бялкоў, алейкаў, квасаў, і простых цукраў. „Цукар нездаровы — кажа праф. Т. Цесельскі таму, што мае ў сабе так зв. „бэрлінскую фарбу“ і іншыя рэшткі адчыньнікауў, яхія былі ўжываныя пры яго вырабе. У Францыі ў 1910—11 г. г. некалькі вучоных

каля чарвы, перагараджываць чарвы рамкамі сушніку ня можна.

Калі трывае добрая пагода і ў полі ёсьць пажытак, то праз некалькі дзён ізноў дадаём аднудзьве рамкі.

Зразумела, што найлепш і найкарысьней даваць пчолам цэлыя рамкі гатовай адбудаванай вашчыны — сушніку.

Вашчына толькі тады добрая, калі яна яшчэ „маладая“ прасьвечываецца. Цёмнай, якая ўжо не прасьвечываецца даваць ня трэба.

Нельга гэтак сама даваць вашчыны бруднай, заплясьнеўшай, а таксама са старой пяргой. Старая сапсутая пярга пчолам шкодзіць і яны яе выкідаюць, на што ім трэба пасьвяціць шмат часу і працы, асабліва калі пярга засохшая. Тады пчолы ня даўшы рады выкінуць яе з чарачак пападгрызаюць іх ад споду; пярга выпадае на дне вульля і тады пчолы выносяць яе на двор.

Вашчына ў гнездавых рамках можа служыць 3—4 гады, дзеля таго заўсёды яе нехапае, і рацыянальныя пчальнікі замяняюць яе вашчынай штучнай — вузой.

Каб збудаваць натуральную вашчыну пчолы траццяць шмат часу і ядуць шмат мёду. Даючы вузу, даём ім гатовую аснову, а ім астаецца толькі дабудаваць чарачкі.

Даючы вузу маем поўную гваранцыю што вашчына будзе з выключна пчалінымі чарачкамі, тады калі пры натуральнай будове пчолы будуюць шмат трутовай вашчыны, і пчаляр змушаны вясьці барацьбу з трутнямі ня хочучы, каб цэлыя іх масы сядзелі ў вульлі і зьядалі мёд.

Пры адпаведных варунках пчолы дабудовываюць вузу вельмі хутка, так што ўжо на 2—3-ці дзень матка складае ў ёй яечкі.

Дадаючы рамкі з вашчынай сыстэматычна ў такі спосаб паступова павялічываем гняздо; пчолы прывыкаюць да бясперарыўнай працы ня думаюць аб раеньні і сямья даходзіць да вялікай сілы.

***Хочаш, каб „Беларуская Борць“ выходзіла акуратна — прышлі падпіску***

---

дактароў чыталі лекцыі аб шкоднасьці цукру, стаўляючы аго на раўне з алкаголям і нікатынаю, называючы яго адною з трох атрутаў, якія забіваюць Францыю. (L'Apicultur). Фабрычны цукар вымагае пры траўленьні шмат працы нашага жывата і таму спажываючы цукар арганізм зужываецца — тады, калі цукар вінаградны і фруктовы, якія знаходзяцца ў мёдзе пераходзяць адразу ў кроў. Док. Кэльлёг, кіраўнік вялікага вайсковага шпіталю, так піша ў сваёй кніжцы: „гэта факт, што ня трэба ўжываць цукру пры ўсіх хваробах жывата: як катар, каменьнях, пры надмеры жалудачных сокаў і іншых. Надмер спажываньня цукру, як прызнана найлепшымі дахтарамі, зьяўляецца прычынай цукровае хваробы. Што датычыцца мёду, дык яго можна ўжываць колькі хто хоча—ён ніколі ня шкодзіць“.

## Лекарскія вартасьці мёду.

Мёд зьяўляецца ня толькі карыснаю і пажыўнаю ежаю для здаровага чалавека, але таксама добрым лякарствам у яго хваробе. І таму часта мэдычныя часапісы ўспамінаюць пра мёд як лякарства.

Есьць ўжо вельмі шмат рэцэптаў у склад якіх уваходзіць мёд. Мёдам можна вылячыць: малакроўе, рахітызм, бязсоніцу, хваробы жывата, нырак, печані і г. д. Мёд лечыць

# Карысная пляцоўка.

У студні м-цы Міністэрства Земляробства выдало абежнік у справе бесплатнага распазнавальнага досьледу хваробаў пчол і разаслалі інструкцыю, якую мы ніжэй падаём радзячы нашым падпішчыкам, пры заўважаньні хваробы на сваім пчальніку, неадкладна ў сваіх-жа інтарэсах пераслаць пробкі ў Працоўню па адрасу: Weterynaryjna Pracownia Rozpoznawcza. Bydgoszcz, plac Wejssenhoffa 8.

# Інструкцыя

**пры досьледах вульлёў (пчальнікоў) падазроных у хваробе, а таксама як браць і перасылаць з іх матэрыял дзеля досьледу ў Вэтэрынарную досьледчую працоўню ў Быдгошчы.**

Кароткі нарыс найважнейшых заразьлівых хвароб пчолаў.

Хваробы пчол можна падзяліць на хваробы: чарвы і дарослай пчалы.

### Хваробы чарвы.

Прычанай хваробаў зьяўляюцца бактэрыі, або мікраскапічныя грыбкі. Хваробы выкліканыя бактэрыямі шмат часьцей здараюцца і больш небясьпечныя, чым прычыняныя грыбкамі, да якіх належаць абодва гнільцы (амэрыканскі і эўрапэйскі), пры каторых цела чарвы замяняецца асабліва ў пазьнейшай стадыі, у жоўтую ці бранзовую разкладовую масу; гэты даволі характэрыстычны колер пазваляе адрозьніць чарву заражаную гнільцам ад памёршай з прастуды, бо такая чарва заусёды мае іншы коляр: шэры аж да чорнага. Хваробе з прычыны заражаньня бактэрыямі аднолькава падлягае, як чарва запячатаная, так і адкрытая.

---

малакроўе, бо дастарчае арганізму вапна і жалеза, неабыходных частак да паўстаньня крыві. Спажываючы яго, хворы набірае здаровага. сьвежага коляру твару і хутка вяртаецца да здароў'я.

Дохтар Ehrhardt гэтак кажа пра мёд: „Дзеля людзей хворых на недакровіцу, мёд ёсьць абавязкавы, бо дзее на іх здароў'е шмат лепш ад жалеза.

Мёдам можна з добрым вынікам лячыць ангельскую хваробу, бо вітаміны, якія знаходзяцца у мёдзе, у вельмі хуткім часе вяртаюць нармальную гаспадарку вапна.

Мёд ачышчае ныркі, печань і мачавы пузыр. „Цукар—кажа вучоны чэскі дохтар Рашін—утрудняе працу нырак і печані, пакідаючы па сабе рэшткі, тады калі мёд ня толькі не пакідае па сабе рэштах але нават ачышчае іх ад частак, якія засталіся ад іншых страваў".

Маючы у сабе фосфар, мёд мае здольнасьць успакаіваць нэрвы і лячыць бязсоніцу. Дохтар Schanburg з Бэрліна кажа: „мёд, аджыўляючы нэрвы, дзее таксама на сыстэму нэрвовую і гэтым лечыць яе", а дохтар прафэсар Klemperer гэтак кажа; „Лыжка мёду спажытая прад сном запэўняе яму спакой" далей кажа: „мёд спажыты з гарачым малаком есьць дасканальным лякарствам проціў грыпы і хрыпцы" і яшчэ, „мёд лечыць болі галавы і мігрэну".

(Працяг будзе).

## Амэрыканскі гнілец.

Найбольш небяспечнай хваробай чарвы зьяўляецца ўжо вышэй успомнены амэрыканскі гнілец. Звычайна хварэе на яго старэйшая чарва найчасьцей запячатаная. Вечка чарачкі хворай чарвы не зьяўляюцца нармальна засклепленым а наадварот пазападаўшаяся, або з дзірачкамі прабітымі пчоламі работніцамі. Калі такая дзірачка будзе крыху большая, дык праз яе можна заўважыць унутры чарачкі шаўкавіста-бліскучы кокан чарвячка; часьцей, па адкрыцьці чарачкі сьцьвярджаем, што цела чарвячка разам са скуркай зьмянілася ў масу брудна-бранзовага колеру, катораяя (характэрыстычная адзнака) па даткненьні палачкай даецца цягнуць у даўгія ніткі. Гэта цягучая маса з часам засыхае на дне чарачкі творачы даволі цьвярды, крэпка прылягаючы, цёмна-бранзовы струп, каторы мае тую ўласьцівасьць, што калі змачыць яго некалькімі каплямі вады, часам даецца выцянуць уніткі.

## Эўрапэйскі гнілец.

Найчасьцей хварэе 3—4 днёвая чарва. Заражаная чарва ляжыць яшчэ скручаная на дне чарачкі ці то адверненая ў гару сьпіной. Цела хворай чарвы шмат больш прасьвечываючае чым чарвы здаровай, так што выразна адзначаецца жаўтаватая маса стравастраўчага праводу. Скурка слаба напятая і граніцы паасобных пярсьцёнкаў менш выразна выдзеляюцца. Пасьля чарва жоўкне і наступае гнільны расклад разам са скуркай, так, што чарвячок замяняецца ў бязформную вадзяністую масу. Часам скурка даўжэйшы час астаецца цэлай і тады чарвячок замяняецца ў мяшочак напоўнены вадзяністай цеччу з дробнымі зярняткамі. Побач з гнільным разкладам ідзе часта крэпкі кіслы пах. Пасьля цеч высыхае, робіцца цямнейшай (жоўтабранзовай) і ў канцы ператвараецца ў гладкі струп, палажаны на дне чарачкі; струпы гэты аднак пры зьвільгатненьні вадой, не замяняецца, як пры амэрыканскім гнільцы, у цягучую масу

Радзей на эўрапэйскі гнілец хварэе старэйшая чарва, запячатаваная. Вечкі чарачак такой чарвы маюць выгляд падобны, як пры гнільцы амэрыканскім.

Іншыя хваробы чарвы (апрача гнільца), як чарва мяшкаватая (Sacbroot), чарва звапнеўшая, чарва скамянеўшая (дзьве апошнія хваробы выкліканыя грыбкамі здараюцца ў Польшчы вельмі рэдка, дзеля гэтага абгаварываць шырэй тут ня будзем і дзеля таго, што самыя назовы даволі характэрызуюць выступаючыя пры гэтых хваробах замены).

Калі пры пераглядзе вульля сьцьвердзіцца, што пчолы захварэлі на адну з гэтых хваробаў, трэба адзін, або калі хвароба выступае ня выразна некалькі кускоў сушы з хворай чарвой, вялічынёй большменш з даланю пераслаць у Вэтэрынарную распазнаўчую працоўню ў Быдгошчы з мэтай апошняга распазнаньня хваробы.

Пры перасыланьні матарыялу трэба помніць, каб кожны кавалак вашчыны быў дакладна апакаваны ў непрамакальную паперу і абазначаны з якога вульля паходзіць. Цэлая пасылка павінна быць запакаваная ў драўляную ці моцную, картонавую скрыначку, ў якую трэба ўлажыць пісьмо падаючы дакладны адрас высылаючага, з азначэньнем колькасьці высыланых пробак і кароткім апісаньнем хваробаў.

## Хваробы дарослых пчолаў

### Акарапіс (acariosis).

У Польшчы гэтай хваробы яшчэ не заўважана, аднак у суседніх дзяржавах: Чэхаславакіі і СССР пчолы на яе хварэюць, дык трэба думаць, што яна паявіцца і ў нас.

Прычынай гэтае хваробы зьяўляецца мікраскапічны чаавячок з сямыпавукоў,які пралазіцьў першую пару тхавак пчалы, размнажаецца ў іх утрудняе аддыханьне, а пасьля магчымасьць лётаньня, што ў рэзультаце кончыцца сьмерцьцю пчалы. Характэрным сымптомам гэтае хваробы зьяўляецца поўзаньне злучанае з тыпічным падскаківаньнем пчалы на падлётнай дошцы і на зямлі знаходзім пчолы, якія страцілі здольнасць лёту.

30—40 пчол хворых на гэтую хваробу забітых хлерофармам ці этэрам, улажыць ў невялічкую пушачку (ад сернікаў) і пераслаць ў распазнаўчую працоўню ў Быдгочшы з місьмом і адзначэньнем, як пры гнільцы.

## Назэма.

Пагляды дасьледчыкаў на самую істоту хваробы разьбежныя.

Некаторыя з вучоных таго пагляду, што першапрычыны гэтае хваробы мусяць быць розныя: кліматычныя ўмовы, род пажытку, неадпаведны корм і ў рэшце непагляд пры забяспечаньні пчол на зіму.

Найчасьцей хвароба выяўляецца сільнымі ляксамі. Аслабленыя і раздутыя пчолы нанова ходзяць па вашчыне, сьценах вульля, падлётнай доніцы, занячышчаючы сваімі адходамі гэтыя прадметы, чаго як ведама, ніколі ня робяць здаровыя пчолы.

Да Мікраскапічных досьледаў ў Распазнаўчай працоўні трэба пераслаць 30 шт. пчол скомплетаваных часткова з пасярод выказваючых вышэйўспомненыя сымптомы хваробы, часткова з пасярод вяртаючых з работы.

Высылаць трэба таксама, як і пры акарапісе, г. зн. абазначыць, падаць кароткае апісаньне хваробы.

Захоўваючы тыя правілы, трэба выслаць для досьледу ў Працоўню пчолы хворыя на ляксы, маёўку, чорную заразу і атручаньне.

# Агульны стан.

Як відаць з прысланых адказаў на нашыя пытаньні з папярэдняга нумару „Белар. Борці“, найбольш распаўсюджанымі ў нас зьяўляюцца вульлі Дадан-Блята і Лявіцкага; у малой колькасьці спатыкаюцца Украінскія і Звёнзковыя— ашклёныя і Варшаўскія з надстаўкамі.

Зімуюць пераважна на мейсцы (на двару).

Залежна ад палажэньня дадзенай мяйсцовасьці пчолы абляталіся ў розны час:

8—9 студня,
у канцы лютага,
2 сакавіка,
7 „
8 „
15 „
22 „
23 „

Як паведамляюць гр. пчаляры абляталіся пчолы добра, што павінна быць доказам добрага стану пасьля зімы.

## ПЫТАНЬНІ.

1) Як пчолы перазімавалі? (Паскольні рамак чарвы мелі пры першым пераглядзе і які апад?).

2) Якая сыстэма вульля аказалася найлепшай для зімаваньня?

3) Якія расьліны ў Вашай ваколіцы далі пчолам першы пажытак?

4) Як разьвіваецца сіла пчаліных семьяў у працягу красавіка і траўня?

ЁСЬЦЬ запатрабаваньне
на чысты ПЧАЛІНЫ ВОСК
у кожнай колькасьці.
Пробкі і цаву просім слаць у рэдакцыю „Беларуск. Борці“ пад „Воск“.

 Зелярства 

## Роля нашага краю ў зелярстве.

Памылкаю было-б цьвярдзіць, што наш край не адыгрывае ў сусьветным зелярстве досыць паважнай ролі", так гавораць аб зелярстве ў Польшчы знаўцы гэтае справы. Гэты погляд зусім слушна можна застасаваць і да зелярства на нашых землях.

Нашыя абшары са сваімі лясамі, балотамі, сенажацямі і рознымі няўжыткамі зьяўляюцца нявычарпаным рэзэрвуарам, з якога чэрпаюцца тыя розныя зёлкі, якія тысячамі кіляграмаў вывозяцца праз польскія таможні заграніцу. Але калі глянем на зёлкавую справу з пункту гледжаньня якасьці тавару, дык тут прыдзецца прызнаць, што наш гандаль зёлкамі знаходзіцца на вельмі нізкай роўні. Гандаль гэты, дзякуючы неарганізаванасьці і безпляновасьці носіць хаотычны характар. Вывозіцца ўсё, што толькі даецца. Ідзе пры гэтым праўдзівае рабаваньне нашае флёры (расьліннасьці). Вынішчываецца і прадаецца часта за бязцэн такія расьліны, як з гартушка, цэнтурыя, амела, канвалія і іншыя, якія ў іншых краёх ужо або зусім вынішчаны, або забаронены да зьбіраньня.

У дадатак да гэтага зьбіраньне і прыгатаваньне зёлак робіцца нядбала, што таксама мае значны ўплыў і на цану. Бываюць выпадкі, што за кіляграм пылку дзеразы зьбірачу прапануюць 1 залатоўку. Цана сапраўды сьмешная, але здараецца гэта дзеля таго, што тавар бывае нядобры прыгатаваны, або зьбірач няведае яго цаны і няма дзе прадаць.

І ў той час, як за нашыя зёлкі плоціцца даслоўна грашы, у наш край увозіцца з заграніцы вялікія колькасьці розных зёлак, якія з поўным пасьпехам могуць быць дастаўлены з нашае дзікае флёры, або з гадоўлі, і за гэтыя зёлкі нашыя аптэкі плоцяць вялікія цэны. Пры гэтым вельмі часта здараецца, што прывозім мы з заграніцы нашыя ўласныя зёлкі толькі пасьля адпаведнай ачысткі і пасартаваньня.

Гэтае ненармальнае зьявішча павінна быць бязумоўна ўсунута.

Нашыя землі сьмела могуць даць краёвай фармацэўтычнай (аптэчнай) прамысловасьці патрэбныя колькасьці зёлак, якія зараз прывозяцца з заграніцы. І ня толькі маглі-б мы заспакоіць патрэбы краёвага рынку пры адпаведнай арганізацыі маглі-б мы з значнай для сабе карысьцяй вывозіць іх яшчэ і заграніцу.

Кліматычныя і прыродныя варункі і склад нашае глебы даюць ня толькі поўную магчымасьць гадаваць шмат якія зёлкі, але і гаранцыю што тавар можна атрымаць першага гатунку. Адпаведны-ж збор, сушэньне і прыгатаваньне тавару забяспечаць і збыт яго за добрую цану. Пры добрай арганізацыі мы можам зрабіцца адным з вялікшых прадуцэнтаў зёлак ня толькі для патрэбаў краёвага рынку, але і для заграмічнага рынку.

У сучасных цяжкіх варунках, калі мільёны рук шукаюць працы і калі ў нас стаяць бяз карысьць, розныя няўжыткі, якія можна выкарыстаць для гадоўлі зёлак, калі з дзікае флёры мы можам бяз ніякае для яе шкоды зьбіраць тысячы кілаграмаў шмат якіх зёлак, а адпаведна іх прыгатаваўшы прадаць за добрую цану, дык на зёлкавую справу варта зьвярнуць увагу, як на адну з крыніц, якая можа даць не благі заробак беззаработным вёскі.

---

## Гігіена і чысьціня пры працы з зёлкамі.

Кожная праца ў зелярстве вымагае бязумоўнае чысьціні. Вымагаецца гэта з двух прычын. Зёлка прызначаюцца дзеля лячэньня чалавека. Калі чысьціня і гігіена маюць вялізарнае значэньне для здароўя чалавека наагул, дык тым балей трэба стасаваць іх падчас прыгатаўленьня лекаў для лячэньня хворага чалавека.

Дзеля гэтага прыступаючы да працы трэба абавязкава памыць рукі. Прылады, якімі прыходзіцца карыстацца падчас збору, сушэньня і апакаваньня павінны быць бязумоўна чыстыя. Памешканьне ў якім адбываецца сушэньне і пакаваньне трэба праветрываць як найчасьцей. Полкі, на якіх зёлка сушацца трэба пасьля кожнай расьліны добра вымыць. Ніколі няможна сушыць адначасна адныя зёлкі з другімі, асабліва з атрутнымі. Зьбіраючы зёлкі трэба глядзець, каб яны ня былі засьмечаны іншымі расьлінамі. Ніколі нельга пакаваць гатовага тавару ў нячыстыя пасудзіны, або мяшкі. Перахоўваць гатовыя зёлкі трэба так, каб яны не сапсаваліся і ня страцілі сваіх лекарскіх уласьцівасьцяў. Усе гэтыя рады трэба найстражэй выконваць дзеля гігіенічнага прыгатаваньня зёлак.

Але адначасна трэба памятаваць і аб сваім уласным здароўі. Шмат якія расьліны маюць атрутныя ўласьцівасьці, а другія бываюць вельмі няпрыемнымі падчас працы. Дзеля гэтага заўсёды трэба захоўваць асьцярожнасьць, але ня трэба баяцца нават самых атрутных расьлін. Ніколі ня трэба працаваць, асабліва пры атрутных, з рукамі пакалечанымі, ня можна падчас працы есьці, цёрці вочы і г д Каля расьлін атрутных не павінны працаваць людзі хворыя на сэрца і дзеці. Калі падчас працы чалавек пачуе санлівасьць, біцьцё сэрца або боль галавы трэба абавязкава спыніць працу і выйсьці на сьвежае паветра. Асаблівую асьцярожнасьць трэба захоўваць падчас сушэньня зёлак. Некаторыя расьліны, як напр. крапіва апаліваюць рукі, дзеля чаго зьбіраць іх радзіцца ў рукавічках.

Калі падчас працы з атрутнымі расьлінамі здарыцца паважнейшае атручаньне, дык трэба абавязкава зьвярнуцца да дохтара.

---

## Што варта зьбіраць.

Распачаўся сезон збору зёлак. Перад кожным хто хоча заняцца гэтай справай, але ня мае забясьпечанага мейсца збыту зёлак, паўстае пытаньне, што рабіць, ці варта распачынаць збор, куды прадаць тое, што будзе сабрана. Пытаньне гэтае бязумоўна вельмі важнае, бо пры нашай неарганізаванасьці не заўсёды ўдаецца знайсьці адпаведнага купца на зёлкі, а калі і трапіцца гэтакі, дык дае такую цану,

што часта шкада ўложанае працы і фатыгі.

Нашая рэдакцыя знаючы гэтакае палажэньне і хочачы дапамагчы сваім падпішчыкам і чытачам у прадажы зёлак, навязала зносіны з аднэй фірмай, якая арганізуе збыт нашых зёлак заграніцу. Тавар для гэтага павінен бязумоўна быць першага гатунку, адпаведна і чыста сабраны і добра высушаны.

Не вялі мы гутарак аб тавары танным, бо зьбіраць яго не аплачываецца — даражэй каштуе перасылка чым самы тавар. Ня радзім дзеля гэтага і нашым чытачам зьбіраць яго, хіба ёсьць спэцыяльнае запатрэбаваньне ў мяйсцовую аптэку, або ёсьць магчымасьць даставіць яго ня меньш як партыяй паўвагановай (5000 кгр ), калі перасылка будзе найтанейшая, але ў апошнім выпадку трэба загадзя паразумецца з фірмаю, якая гэты тавар купіць

Фірма, з якой мы вайшлі ў паразуменьне запэўняе нам збыт гэтакіх зёлак:

1) Пылок дзеразы,
2) Сушоныя ягады малінаў і чарніцаў,
3) Спарыньня ці вароняе жыта або ражкі,
4) Кветкі ліпы,
5) „ чорнага бэзу або бузіны,
6) Лісьцё блёкату,
7) „ дурнапьяну або дурману,
8) Зельле загартушкі,
9) Карэньня жывакосту,
10) „ мыдліку або сабачага мыла,
11) Карэньня аеру

Арганізацыю даставы зёлак узяла на сябе нашая рэдакцыя, дзеля чаго ўсе запытаньня і пробкі тавару просім высылаць на адрас рэдакцыі. На адказ трэба далучыць паштовую марку за 25 грошаў.

---

## Календар збору зёлак.

Травень—Чэрвень—гэта пара збору кветак, лісьця і зельля.

### Кветк —Flores.

Чарны Бэз (бузіна)—Sambucus Nigra—запатрэбаваньне значнае. Цана 90—1.40—

Шанта—(глухая або белая крапіва). Lamium album у краі запатрэбаваньне малое ідзе на экспорт. Цана 2—3,50 гр. за кгр.

Васілёк (Валошка) Centaurea Cyanus запатрэбаваньне не малое, але толькі на добры тавар. Цана ад 2—4 зл. за кгр.

Лілея вадзяная (гусачка). Nymphaca albba.

Відук (палявы мак). Papaver rhoeas. Цана 3—4 зл. за кгр.

### Лісьцё—Folia.

Суніцы (пазёмкі) — Fragaria vesca запатрэб. на экспорт часамі вялікае. Цана 40—60 гр. за кгр.

Чорная парэчка Ribes nigrum тавар экспортны. Цана 30—40 гр. за кгр.

Падбел Tussilago farfara тавар экспортны. Цана 20—25 гр. за кгр.

Крапіва Urtica dioica. Цана 25—30 гр. за кгр.

Чарніцы (чорныя ягады) Vaccinium myrtillus запатрабаваньне вялікае. Цана 1.20—1.30 за кгр.

Бабоўнік (бабок) Menyanthes trifoliata. Цана 25—35 гр. за кгр.

Палын — (пялун) Artemisia Absinthium. Цана 30—40 гр за кгр.

Мачанічнік (Мучальнік) Arctostaphylos Uva ursi запатрэбаваньне вялікае. Цана 25—35 гр. за кгр.

Воўчая ягада Attropa Belladona (атрутнае) запатрэб. вялікае. Цана зл. 1.50—2.20 за кгр.

Блёкат (люлек) Hyoscyamus niger (атрутнае).
Цана зл. 1.—1.50 за кгр.
Дурнапьян (дурман) Datura Stramonium (атрутнае).
Цана зл. 0.70—1.— за кгр.

Зельле - Herba.

Заячая рута — Fumaria officinalis запатрэбав. вялікае.
Цана зл. 1.25—1.50 за кгр.
Падарожнік (сьвінячая трава) — Polygonum aviculare запатрэбаваньне вялікае.
Цана 20 гр. за кгр.
Сардэчнік — (цэнтурыя) Erythreae centaurium, запатрэб. вялікае.
Цана зл. 1.— 1.30 за кгр.
Баркун жоўты Melilotus afficinalis.
Цана 40—60 гр. за кгр.
Братачкі—Viola tricolor
Цана 50—60 гр. за кгр.
Сьвятаянскае зельле (расанкі, дзюравец) Hypericum perforatum.
Цана 30—35 гр. за кгр.
Сытвік (рабачкі) Sedum acre.
Цана зл. 1.50—2.— за кгр.
Стрэлкі (плашчуха, вош, чырванец)—Capsella bursa pastoris.
Цана 30—40 гр за кгр.
Хвошч палявы (скрып) Equisetum arvense. Цана 20—25 гр.

## Садоўніцтва і агародніцтва.

### ГНАІЦЕ ФРУКТОВЫЯ ДРЭВЫ.

Маладыя дрэвы маюць даволі спажывы ў ямах, якія мы ім прыгатавалі перад высаджываньнем.

Затое старыя дрэвы, якія родзяць шмат фруктаў, а прырост маюць малы, патрабуюць абавязкава угнаеньня.

Найлепш ў восені палажыць пад дрэва навоз, кампост, людзкія адходы перамешаныя з попелам, і сам попял і перакапаць, або перагараць.

Каб угнаеньне сапраўды дало добрыя вынікі, трэба яго даваць там скуль дрэва цягне сабе спажыву, г. зн. ў мейсцы дзе древа мае дробныя карэньчыкі. Дробныя карэньчыкі дрэва ўзнаходзяцца на нейкіх $^1/_4$ мэтра далей ў зямлі чым галіны кароны ў паветры.

Хто ў восені сваіх дрэваў ня угнаіў, можа гэта зрабіць цяпер ў траўні або чэрвені, ў наступны спосаб: Кругом дрэва ў мейсцы дзе знаходзяцца дробныя карэньчыкі прабіць 5 6 глыбокіх, лейкаватай формы дзір, даходзячых да карэньняў. Робіцца іх калом завостраным найлепш жалезным.

У гэтыя дзіры наліваецца гнаёўка або курыны навоз на палову з вадой разведзяны, або кроў з вадой, попелам і супэрфасфатам.

Усяго гэтага наліваецца поўна і ямы астаўляюцца адкрытыя, іх памалу зямлёй зацягне.

Асабліва трэба застасаваць гэтакае угнаеньне, калі дрэва мае шмат завязей. *З. В*

Польская пчалярская часапісь **„Bartnik Postępowy“** ў месяцы студні прыдбала 350 новых платных падпішчыкаў. — А мы?

## Барацьба са шкоднікамі нашых садоў.

У траўні і чэрвені вылупляецца маса шкодных гусьвіцаў, якія, калі ад іх не бараніцца могуць аб'есьці лісьцё на дрэвах да чыста, гэтакія дрэвы выглядаюць, як пасьля пажару і не дадуць фруктаў ня толькі сёлета але і ў наступным годзе. Некаторыя з гэтых гусьвіцаў, асабліва ў халодную або хмарную раніцу, сядзяць кучкамі на суках з сонечага боку. Тады іх трэба душыць на мейсцы або зьбіраць ў якую небудзь пасудзіну і нішчыць. Можна гэтак сама, калі сідзяць яны ў трудна даступным мейсцы страсаць на зямлю, а пень абвясьці пярсьцёнкам з мокрай гліны. Улазячы назад на дрэва гусьвіцы затрымаюцца пры гліне і тады іх лёгка зьнішчыць. Некаторыя матылі кладуць яечкі на платах, сьценах будынкаў або на карэ дрэваў пакрываючы іх зьверху залацістым або цёмным пушком. Гэтакія гнёзды трэба саскрапсьці нажом і спаліць.

— Маёвыя хрушчы трэба нішчыць дзе толькі можна, бо яны зьядаюць вельмі шмат лісьця, іх гусьвіцы жывучы ў зямлі 3 гады нішчаць збожа і агародніну. Найлягчэй зьбіраць хрушчы раніцай, калі пад уплывам начнога холаду, яны вісяць учапіўшыся за галінкі, як зьдзеравянеўшыя. Падаслаўшы пад дрэва посьцілкі страсаем іх з дрэва, зьбіраем ў мяшок, абліваем варам і даем курам ды сьвіням. Трэба гэтак сама нішчыць гусьвіцы хрушча, а перадусім не забіваць кротаў, якія гэтыя гусьвіцы масамі зьядаюць. — У пагодныя вечары ў чэрвяні і ліпні добра паліць каля саду вогнішчы, да іх прылятаюць хмары розных шкодных матылькоў і гінуць. Добра палажыць ў чэрвені паміж сукамі кароны жменю сена. Гусьвіцы маючы перамяняцца у лялечкі залазяць пад сена дзе іх лёгка знайсьці і знішчыць. Апрача таго трэба ў чэрвені абвязаць кожны пень Кускамі старога сукна і адвярнуць іх да нізу, як каўнеры. Пад гэтыя каўняры паналазіць шмат розных шкоднікаў. Трэба помніць што нашымі памошнікамі у барацьбе са шкоднікамі ёсьць птушкі, сьцерагчы іх і іх гнёзды ды прываблівать да сваіх садкоў.

## Як садзіць рассаду.

Рассаду, выгадаваную ў інспэкце (парніку) або на рассадніку перасаджываецца ў грунт, як толькі наступіць адпаведная пара, г. зн. міне небяспека прымаразкаў, а рассада ўжо гатовая, адпаведнай вялічыні і сілы.

Для перасаджываньня выбіраецца дзень хмарны, а нават дажджлівы. Калі прыходзіцца садзіць ў сухую пагоду, то садзіцца ў вечары.

Можна садзіць радкамі ўздоўж загона, або ў поперак. Гэта, як каму падабаецца і значэньня вялікага ня мае. На вызначаных лініях садзяць або ў квадрат, або ў шахаўніцу. У шахоўніцу садзяць так што калі пасадзілі адзін рад, то ў наступным расьліны прыходзяцца паміж двумя расьлінамі 1-га радка.

— Садзячы ў квадрат трэба глядзець, каб расьліны стаялі проціў сябе.

Важным варункам неабходным дзеля добрага разьвіцьця і росту расьлін зьяўляецца адлегласьць па-

між імі. Адлегласьці дзеля розных расьлін бываюць розныя.

Гэтак напрыклад раньняя капуста, (сьпешка) ў радкі, адзін ад аднаго на 40 цм. і на радку расьліна ад расьліны на 40 цм. Зімовая (позная) капуста на 50×50 цм. або 50×60 цм.

Бручку—40×40 цм.

На зямлі моцнай гнойнай садзіцца радчэй на слабейшай гусьцей.

Прыступаючы да самага працэсу перасаджываньня трэба прыгатаваць сабе колачак на 2 пальцы грубіні ўнізе завостраны. Гэтым калочкам робім дзіркі, ў якія садзім рассаду.

Рассаду перад выйманьнем добра паліваем каб зямля пры карэньчыках трымалася.

Рассады ніколі **ня вырываем**, а **падкапываем** маленькай лапаткай або шырокім нажом.

Выбіраем рассаду самую моцную, а слабейшую астаўляем на мейсцы каб падрасла. Яна можа прыгадзіцца на дасаджываньне ў тых мяйсцох, дзе ня прыжыве.

Выбраўшы рассаду астаўшуюся паліваем добра, каб ня высахла. Карэньчыкі рассады, па магчымасьці трэба шанаваць, не зарываць; абрэзываць можна толькі тады, калі яны вельмідаўгія і пры высаджываньні загінаюцца напр. ў бручкі ды цыбулі — Флянцоўкі.

Садзіць капусту ды бручку трэба **па першыя два лісткі;** зямлю пальцамі добра абціскаецца пры карэньчыках і робіцца ямка дзеля паліваньня.

Пасаджаная рассада павінна трымацца роўна.

Цыбулю-фланцоўку і буракі флянцаваныя трэба крыху абрэзаць (лісьцё) каб расьлінкі маглі ўтрымацца роўна.

Пасадзіўшы рассаду, трэба яе зараз-жа паліць.

Вельмі добра перад высаджываньнем, карэньчыкі рассады мачыць ў ня густой сумясі гліны і кароўяга навозу. Тады рассада лягчэй прыжывае, бо карэньчыкі ня высыхаюць і апрача таго расьліна мае адразу каля сябе спажыўны матэрыял, дзеля чаго добра разьвіваецца.

*Л. В.*

# Гарбуз, яго гадоўля і ўжыткаваньне

Гарбуз вымагае добра выробленай, і вільготнай зямлі. Найлепш удаецца на кампостных кучах. Пры гэтым трэба зазначыць, што для, кампосту гэта карысна, бо вялікае лісьцё гарбузоў пакрывае кучу і не дапускае да высыханьня.

Хто ня мае кампосту можа гадаваць гарбузы і на загонах, але тады трэба выкапаць ямы шырыні 80 цм. і 40 цм. глыбіні, напоўніць іх старым, добра перагніўшым навозам прысыпаць зямлёй і пасярэдзіне садзіць зярняты гарбузоў.

Адлегласць паміж ямамі мусіць быць—2 мэтры.

Садзіць гарбузы можна, ад палавіны да канца траўня. Найлепш па 2—3 зернятка ў кожную ямку; як узыйдуць пакінуць наймацнейшую расьлінку а рэшту выкінуць.

Гарбузы растуць вельмі хутка толькі вымагаюць багатага паліваньня і ачысткі ад пустазельля ў першую пару іх росту. Калі ўжо завяжуцца овачы астаўляецца 1—2 на расьліне, а рэшту завязак і адросткаў, адрэзываецца Адрэзываецца гэтак сама канцы галоўнай галіны.

Пры гэтакай гадоўлі гарбузы (овачы) растуць вялікія і лепш сьпеюць.

Сьпелым лічым гарбуз тады, калі скурка яго цьвярдая не даецца

прабіцца, пазногцям, а пры стуканьні „гудзіць“.

Зьбіраючы гарбузы трэба ўважаць каб іх ня кідаць і не паабіваць ды не калечыць. Сьпелыя, здаровыя гарбузы ў сухім, халодным мейсцы могуць перахоўвывацца аж да красавіка або і траўня, наступнага году і быць добрымі да ўжытку.

Ў нас пераважна садзяць (і то ў малой колькасьці) гарбузы зялёныя г. званыя кармовыя. Для людзкой ежы яны мала надаюцца; а добрыя толькі як корм для кароў і сьвіней.

Ёсьць гарбузы жоўтыя, „Цэнтнаровыя“ памаранчовыя — „гарбуз з Этамп“ якія растуць вялікія, мякіш маюць смачны і вельмі салодкі.

Вось гэты вялікі працэнт цукру ў мякішы гарбузоў і робяць іх вельмі цэнным пажыўным прадуктам, тымбольш, што якраз „цукру“ ў нашай селянскай ежы адчуваецца абсалютная атсутнасьць.

Дзеля таго, што ў нас гарбузы амаль што ня ўжываюцца падамо некалькі спосабаў іх ўжыткаваньня.

**1) Гарбузовая зупа.** Рэжуць сьпелы гарбуз у квадрацікі, або плоскія кусочкі і вараць як рэдкую бручку або морхву. Ядуць забяліўшы.

**2) Зупа інакш,** (прапорцыя на 4 асобы).

Узяць 1 кілё сьпелага гарбуза ачысьціць з шолупіны і з унутраняга мякіша, парэзаць на кускі, палажыўшы ў саган, наліць вадой, каб пáняла. Разварыць на кашу. Можна бяз вады сьпячы ў печы. Развараны або сьпечаны перацёрці праз сіта, заліць $^3/_4$-мі літра малака, добра размяшаць і на гэту жыжку засыпаць зацірку. Каліб было загуста,--даліць малака.— Вельмі смачная зупа, якую асабліва ахвотна ядуць дзеці.

**3) Гарбузовая каша з рыжам.** Разварыць 1 кілё гарбуза ў 1 літры вады. Перацёрці праз сіта, даліць 1 літр малака, крыху пасаліць і да гэтага ўсыпаць 1 шклянку рыжу. Добра вымяшаць і паставіць ў печ.

**4) Гарбуз да пірагоў заместа яек.** Салодкі і сьпелы гарбуз разварыць ў малаку на рэдкую кашу. Перацёрці праз сіта і даць ½ літра гэтай масы на 4 літры мукі.

Гарбуз ня толькі замяняе яйкі але яшчэ робіць цеста салодкім.

**5) Гарбузовая мармаляда.** Сьпелы салодкі гарбуз ачысьціць, парэзаць на кускі і сьпячы ў печы. Сьпечаны перацёрці старанна праз сіта, улажыць у белы паліваны саган (або хто мае ў мядзяную міску да канфітураў) і варыць часта мяшаючы ад дна, каб ня прыгарэў. Асобна сьпячы і перацёрці праз сіта яблыкі. Колькасьць залежная ад волі і магчымасьці. Можна палову колькасьці гарбуза, можна трэцюю часьць або і меньш. Трэба аднак зазначыць, што мармаляда найсмачнейшая на палову з яблыкамі.

Калі гарбузовая маса згусьцее, г. з. калі німа ў ёй ужо „вады“, дадаюцца перацёртыя яблыкі, мяшаецца старанна абедзьве масы разам, дадаецца на запах цынамон і варыцца на малым агні, часта мяшаючы.

Хто хоча, каб мармаляда была саладзейшая, дадае цукру.

Варыць трэба доўга. Чым мармаляда гусьцейшая, тым больш трывалая.

Насеньне лясных і фруктовых дрэваў купляе фірма

**С. ВІЛЬПІШЭЎСКІ**

**Wilno, ul. Zawalna 24.**

Пры афэртах прысылаць пробкі і падаць колькасьць.

— Гатовую і астыўшую накладаюць у слоікі, або гліняныя гаршкі і не абвязываючы ставяць у печ пасьля хлеба. На паверхні запячэцца скарынка, якая бароніць мармаляду ад плесяні. Пасьля абвязываецца пэргамінавай паперай і трымаецца ў сухім, халодным мейсцы.

— Гэтая мармаляда надаецца да блінкаў, да перакладаньня пірагоў, да хлеба і г. д.

З гарбузоў робяць яшчэ канфітуры ў сыропе, канфітуры сухія і марынату ў воцаце. Але гэтымі рэцэптамі, як больш труднымі да выкананьня і даражэйшымі, ня хочам займаць мейсца. — Можам падаць іх аднак на жаданьне гр. падпішчыкаў.

*А. Войцікава.*

---

# Догляд за кампостнай кучай.

Налажыць у кучу ўсягоўсякага—мала, з гэтага нічога ня выйдзе: у кучы зьявіцца плесьня, куча струхлее. Калі нават мокры гной злажыць у кучу і за ім не даглядаць, дык і то шмат яго прападзе без карысьці А тут усякаяўсячына—і сухое і мокрае, дык тут горш нічога ня выйдзе. За кучай хоць і невялікі, але ўсё-ж трэба догляд. Таксама ня трэба забывацьца, што ёсьць куча. Трэба заўсёды глядзець, каб з сабранага ў кучу нічога не прападала дарэмна, каб усё роўнымі пластамі раскідалася на кучы.

Кучу назьбірваць з прамежкамі часу, каб сухія пласты перамешваліся з вільгкімі, каб жыжка, якая ўліваецца ў кучу, не сьцякала па бакох яе, каб у кучы заўсёды падтрымлівалася вільгаць, асабліва вясной і ўлетку. У сухую пагоду ня менш аднаго разу ў тыдзень трэба кучу палівадь гнаёвай жыжкай. Калі няма жыжкі ці другіх карысных для паліўкі кучы вадкасьцяй, — дык паліўку рабіць звычайнай вадою, абы толькі куча была вільготнай,

Усякія зьмены ў кучы адбываюцца дзякуючы асаблівым каторыя нельга ўбычыць простым вокам, жывым істотам, якія называюцца бактэрыямі. Бактэрыі ў прыродзе знаходзяцца ў розных целах, існуюць бяз ліку ў паветры, і кожны від іх займаецца сваёй працай Вядуць бактэрыі сваю руховую дзейнасьць толькі пры пэўных для іх умовах. Каб усе гэтыя бактэрыі працавалі, дык ім трэба цяплыня, паветра і вільгаць У халоднай кучы, напрыклад, зімою ніякіх зьмен у ёй не адбываецца. У зьляжалую шчыльную кучу не даходзіць паветра а без паветра і праца бактэрый спыняецца. У сухой кучы бактэрыі жыць ня могуць, а замест іх пасяляецца грыбковая плесьня, якая множыцца з вялікаў хуткасьцю і псуе кучу сваёй працай.

Кучу трэба паставіць у такія ўмовы, каб усяго, што патрэбна для жыцьця карысных у ёй бактэрый, было даволі.

Для таго, каб у кучы адбываўся абмен матэрый і каб матэрыі лепш зьмешваліся адны з другімі, каб куча не асядала і ў яе даходзіла паветра, вільгаць і цяплыня, якія толькі і дапамагаюць бактэрыям у кучы рабіць зьмены, дык дзеля гэтага яе разы два за лета трэба пералапаціць, г. зн. пералажыць з аднаго месца на другое, тут-жа, збоку.

Перад тым, як пераладаць кучу, на тое месца, куды яе класьці, патрэбна падлажыць тонкі пласт торфу, а калі яго німа то сухога лісьця або нават саломы. Гэткае месца трэба пакінуць наперад не

аручы каля самае кучы з якога-небудзь яе боку. Каб перакладаць кучу, трэба мець каля сябе рыдлёўку і сахор. Перакопваючы кучу, трэба перамешваць пласты так, каб класьці больш сухія знадворныя пласты ў сярэдзіну, а сярэднія мокрыя і падгніўшыя знадворку і зьмешваць больш вільготныя пласты з сухімі, адначасна дробячы грубыя неперагніўшыя часьці ў кучы. Дно, дзе ляжала куча, падчысьціць так, як-бы там нічога і ня было.

Другі раз кучу перакладываць на тое самае месца, дзе яна ляжала першы раз. Пад ніз палажыць таксама пласт торфу, — гэта ўсё для таго, каб з кучы нічога не прападала ўніз; ды торф палепшыцца і будзе тяксама ўгнаеньнем, хоць ужо перагніўшая маса і будзе добра ў сябе ўбіраць вільгаць. Першы раз перакладваць кучу, як скончыцца веснавая сяўба, у канцы травеня ці ў пачатку чэрвеня, а другі раз ужо па сканчэньні ўсяе палявой працы ўвосень. Пераклаўшы другі раз кучу, у яе ўжо ня трэба класьці нічога, апрача толькі такіх матэрый, якія хутка гніюць, як кал, мача людзей і жывёлы, і паліваць жыжкай.

У гэты час ужо трэба паклапаціцца, каб пачаць класьці другую кампосную кучу, гэткім самым парадкам. Другую кучу закладаць ня так хітра; калі першы раз былі заганы, дык другі раз яны выправяцца. А калі ўжо выявіцца тая вялікая карысьць, якую дасьць першая куча, дык заўсёды будзеш закладаць яе.

## Карыстаньне

Кампоснае ўгнаеньне вельмі моцная. Пад агародныя расьліны даволі палажыць яго нямнога на тыя грады, якія падрыхтаваны для пасадкі на іх гародніны. Пры пасадцы капуснае расады, кампост трэба падсыпаць пад самыя карані; пры пасадцы ўсякіх садовых дрэў, яго таксама падсыпаць пад карані.

Ад пасыпкі кампоснае зямлі на грады пад агародныя расьліны, перш за ўсё на паверхні глебы ніколі ня будзе ўтварацца скарынка! глеба заўсёды будзе пульхнай, а пульхная глеба лепей награецца сонцам, паветра лёгка праходзіць да каранёў расьлін, у пульхнай глебе лепш трымаецца вільгаць і абараняе яе ад высыханьня. Па-другое, карані ўсякіх гародных і інш расьлін зараз-жа знаходзяць сабе гатовы харч, ад чаго моцна разрастаюцца, даюць цёмна-зялёныя моцныя лісьця і вялізарнае карэньне корачьплодаў.

Каля пасаджаных і дарослых дрэў пасыпаць, успухліўшы глебу, там, дзе знаходзяцца канцы каранёў дрэва, нават самыя іх тоненькія кончыкі.

Садовыя ці кустовыя дрэвы ад падсыпкі пад іх карані гэткае зямлі хутка прыжываюцца на новым месцы, шыбка растуць, даюць багаты ўраджай добрых і чыстых пладоў.

Усюды, дзе-б мы ні пасыпалі гэткае зямлі, будзе відавочнае паляпшэньне. Баяцца гэткага ўгнаеньня ніколі ня трэба: гэта ня той сьвежы гной, які пры няўмелым ужываньні псуе карані расьлін і ад якога ўтвараецца бель, якая псуе карані. Гэта такая зямля, якая мае цёмны, пульхны, мяккі, раўнамерна-вільготны, расыпчасты від, бархацісты і далікатны на вошчуп, і ў якой ужо маецца ў поўным складзе харч для каранёў усякіх расьлін.

Ня трэба забывацца, што такая зямля ўзбагачае глебу не на адзін год, а на некалькі. Там ў працягу некалькіх гадоў можна абагаціць глебу перагноем так, што і не пазнаць. Загадзя да пасадкі ці пасеву расьлін класьці ў глебу такую зямлю ня трэба, бо гэта ня сьвежы гной—ёй ужо гнісьці ня трэба, яна ўжо перагніўшая.

*С. Каур.*



# З НАШАГА ЖЫЦЬЦЯ.



**М-ка Далятычы** (Наваградчына).

Справа пчалярства, як і іншыя галіны вясковага гаспадарства, ў найбольшай меры узалежнены ад географічных і кліматычных умоў той ці іншай ваколіцы. Калі дзяржаўны дзеяч кажа: дайце мне добрыя грошы і я дам моцнае гаспадарства, мы земляробы можам сказаць:—дайце нам болей у годзе цяпла, то дамо вам лепшую зямляробскую гаспадарку. Адны варункі, калі пчальнік ляжыць каля лесу і блізка сенажацяў, другія, калі пчальнік знаходзіцца ў палясе адкрытай ці палявой. Тады, калі ў першым выпадку, пчолы пры малейшым цяпле, ужо пад бокам маюць і зацішак і ранейшы пажытак з раньніх лазовых дрэваў, то гэтых самых абставін за мала дзеля пчол, паложаных далей ад лясоў. Ды дзеля таго, што плошча нашых лясоў пераважна ляжыць на пешчана-баравых узгорках; дзе бывае бадай што апошні васеньні пчаліны пажытак верасковы. Пчолы лясныя змогуць выкарыстаць хоць пару гадзін васеньняго цяпла. Калі ўзяць пад ўвагу, што ў нас на Беларусі пераважна вёсны і восені з халоднымі дажджамі і моцнымі заходнімі вятрамі, то невялікая адлегласьць як 1,5 кілямэтра адыгрывае аграмадную ролю.

Пчалярства нашай ваколіцы за апошнія два тры гады калі ня зменшылася, то здаецца і не пашырылася. Усе тры гады для пчаляроў былі не карысныя, бо 33 і 35 былі вельмі даждлівыя і халодныя, а 34 быў за гарачы. У часе медабраньня, краскі і дрэвы мелі мало сакаў і вельмі рана адцьвіталі. Толькі моцныя старыя семы змаглі даць па пары кіл. мёду болей, як самым патрэбна было на зімовую пару. Тады, як новакупленыя раі вымагалі падкормкі, падкормкі і падкормкі. Расход ёсць, а прыходу ніякага. Страты адбілі ахвоту ў пчаляроў аматараў, толькі вельмі вялікія ахвотнікі ды грашова мацнейшыя адзінкі ўпарта трымаюцца пры сваім, стараючыся пабольшыць свае пчаліныя гспадаркі. Стрэйшыя пчаляры, якія вадзілі пчолаў у калодах дуплянках, пакрысе прадаюць, а хто з маладых купляе то заводзіць толькі вульлі рамовыя. Калі падлічыць цану рамовага вульля, рою, вузу ды падкормку, то будзе відаць, што пчолы каштоўная гульня, а каб мець хоць крыху карысьці, то патрэбна часу і фаховай веды. Лягчэй здаецца, прыгадаваць карову і мець ад яе карысьць, як ад пчол, хоць утрыманьне каровы шмат даражэй каштуе. Гэта мая думка можа і ня зусім слушная, бо як я завеў пчолы, то ўсяго тры гады, ды маю усяго дзьве сямі, ў вульлях сыстэмы Дадан-Блятта. Зімую свае пчолы на дварэ, дзе небудзь у спакойным мейсцы пры сьцяне кладу кастрыцы даволі тоўста і стаўляю на ей вульлі. Посьля кастрыцаю абкладаю кругом і паміж вульлёў. Калі сем'я моцная і мёду досыць у вульлі, то пакідаю ўвесь ляток адкрыты на зіму, толькі прыкрываю дошчачкаю, каб не падаў свет і ў часе мяцеліцы не завеяла выляту, ў сем'ях слабейшых лётку затыкаю анучкаю. Зімоўка ўдавалася. Ні вільгаці, ні плесьні. Апад быў большы тады, калі пчолы апаковываліся позна. Дзеля таго што вёсны пачыналіся рана, то пчолы і аблёты рабілі неспадзеваныя. У гэтым годзе аблёт быў больш

меньш ў чыслах 1 сакавіка па новаму стылю.

*Далятыцкі Бадзяка.*

Далятычы, 14-IV 36 г.

*Ад рэдакцыі* Не пярэчым, што мейсца знаходжаньня пчальніка мае вялікае значэньне для памыснага разьвіцьця яго, але мусім сказаць, што павялічэньне і урэгуляваньне пажыткаў залежыць ў аграмаднай меры ад самага пчаляра. Садзючы адпаведныя медадайныя дрэва і кусты і сеючы медадайныя расьліны можа пчаляр стварыць і зацішнае мейсца для сваіх пчолак і запэўніць ім медасбор ў працягу цэлага сэзону. Тады адпадзе неабходнасьць падкармліваньня і пчаляр для сябе больш мёду атрымае.

## Пчолы і чырвоная канюшына.

Праз некалькі гадоў я сачыў за пчоламі к-Мінгрэльскае расы, хочачы даведацца, ці праўда, што яны бяруць мёд з чырвонай канюшыны. Ніводнай пчалы я на чырвонай канюшыне не бачыў і толькі ў засуху ў 1931 годзе, калі ўсе кветкі высахлі, а толькі яшчэ крыху цьвіцела чырвоная канюшына, тады ўсе пчолы, як краёвыя, італіянкі і каўказка-мінгрэльскія ляцелі на чырвоную канюшыну. Мёду ўсе вульлі мелі аднолькавую колькасьць, так што нашыя краевыя ніўчым не ўступаюць чужаземкам, толькі італіянкі і мінгрэлькі шмат лагаднейшыя.

---

Ні водзін пчаляр ня піша які лепшы вылят у вульлі. Я за 15 гадоў свайго пчалярства заўважыў, што у круглы вылет пчол цягне, як магнэсам, а ў падоўжны кожная пчала мусіць спярша сесьці на падлетную дошку, а толькі тады уваходзіць ў вульлей.

*Тодар Бурдзейка.*

Сяло Цэпра.

---

# Усячына.

## Новыя магчымасьці прадажы лёну і канаплі.

У зьвязку з забаронаю купляць у Італіі прадукты яе гаспадаркі, на сусьветным рынку зьменшылася на 40 тысячаў тонн прадажа канаплі, якую дагэтуль дастаўляла Італія. Ангельскія прадзільні, якія ўжывалі штогод каля 30 тысячаў тонн італьянскай канаплі павялічваюць ужываньне лёну. Гэта адчыняе новыя магчымасьці ў справе гадоўлі канаплі, а таксама павінна мець дадатні ўплыў на ільняны рынак, значна павялічыць запатрабаваньне на ільняное валакно і павысіць яго цану.

(паводле „Tygodnik Rolniczy")

## Электрофікацыя вёсак Славаччыны.

У апошнія 2 гады павялічылася запатрабаваньне электрыкі ў вёсках паўночна-заходняй Славаччыны. Ня гледзячы на неспрыяючыя грашовыя варункі, за гэты час электрафікавана 35 гмін. У гэтым годзе праэктуецца электрафікацыя 50 гмін. Пазасталыя 350 гмін маюць быць электрофікаваныя у працягу 4 гадоў.

(паводле „Wiadomości Rolnicze")



## Замест адказу п. Зданоўскаму.

Зусім згаджаемся з п. Зданоўскім і выясьненьне справы істнаваньня ў Польшчы ляборатoрыі дзеля падрабязнага аналізу мёду ўсецэла складаем у рукі „Бартніка Пастэмповага“.

Што тычыцца інсынуацыяў на тэму нейкіх нашых скрытых думак і мэтаў, то лічым іх настолька безпадстаўнымі і нягоднымі шляхотнага чалавека, што астаўляем іх бяз адказу.

РЭДАКЦЫЯ.

---

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

Гр. Канановічу. На Вашу пісульку адказ лістоўны высланы 14 IV г. г.

Гр. Аляксандру Сяргею. Пробны № Вам высланы

Гр. Н. Кішко. Насеньне Вам выслалі разам з прэмьяй Кустоў ня выслалі бо перасылка іх больш-бы каштавала чым яны вартыя. Мoжа у вясені будзеце у Вільні то атрымаеце.

Гр Т. Дурыла. Пробны № Вам высланы Інфармацыі аб лекарскіх зёлках ёсць і будуць ў кожным нумары.

Гр. І Кузубу. За Вашае прызнаньне і пажаданьні шчыра дзякуем.

Аб мядадаях і садоўніцтве будзем пісаць якнайбольш наскoлька мейсца пазволіць.

Гр. П. Кайкоўскаму. Вельмі нас цешыць што „Бел. Борць“ Вам і Вашым суседзям гэтак падабаецца; за пажаданьні шчыра дзякуем

Чакаем карэспандэнцыі і абяцаных адрасоў.

Згары дзякуем за збор ахвяр на Прэсавы Фонд.

Гр. Пузыні. Ад Вас было атрымапа 1 зл. 15 гр. На гэту суму выслана:

Мэліса — 25 гр.
Ізоп — 20 гр.
Баркун — 20 гр.
55 гр. фэцэліі — 25 гр.
перасылка — 25 гр.

Здаецца ўсё ў парадку. Чаму Вы лічыце, што павінны атрымаць за 25 гр. фацэліі?

---

Усім гр гр. Падпішчыкам належныя прэміі высланы 22 красавіка.



**Камплеты Завочных Курсаў**
па арганізацыі збору лекарскіх зёлак можна выпісаць з Т-ва „ПЧАЛА“, ВІЛЬНЯ, КАРАЛЕЎСКАЯ ВУЛІЦА 3 — 8.
ЦАНА 2 ЗЛ.

Выдавец - Рэдактар Л. ВОЙЦІКАВА.

Друк. Баеўскага. Вільня, Татарская вул. 13.